# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**№2 (2560)**

**15 студзеня 1998 г.**
**Выдаецца з 1955 г.**
**Цана 1 500 рублёў.**


**Віншуем з Калядамі!**

# ДЗЯКУЙ ЗА КАЛЯДНЫ ПАДАРУНАК!

Нялёгка пакуль жывецца на Украіне: 4—6 месяцаў не атрымоўваем заработнай платы, перабіваючыся тым, што "Бог пашле". І такога шэрага свята каталіцкіх Калядаў, як у гэтым годзе, у мяне не было ўжо даўно! І вось па іроніі лёсу менавіта 25-га снежня (на Украіне ён звычайны працоўны дзень) я атрымаў чарговы, 51-шы нумар "Голасу Радзімы", дзе маю ўвагу прыцягнуў матэрыял пад загалоўкам "Да дружалюбнага супрацоўніцтва". І калі я яго ўважліва перачытаў, то зразумеў, што нарэшце Дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце", якая была прынята яшчэ ў 1993-м годзе, пачынае кранацца з месца. А доказам гэтага асабіста на маім прыкладзе з'явіўся ранішні тэлефонны званок, які разнёсся ў цішыні кватэры на трэці дзень Калядаў... У тэлефоннай трубцы раздаўся мілагучны голас спадарыні Ніны Петуховай, якая ветліва прывітала мяне з Калядамі і паведаміла прыемную навіну: у Мінску ў Дзяржаўным камітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь для гурта беларускай культуры "Зорка Венера" падрыхтаваны калядны падарунак: тэлевізар і відэаплэер. У мяне (я яшчэ быў у ложку) адразу ж прапаў сон, мне захацелася ў Мінск, пабачыць гэты цуд на свае ўласныя вочы. Пабегаўшы паўдня па ізяслаўскіх знаёмых у пошуках грошай на чыгуначны білет, я ўжо раніцою 29 снежня быў у сталіцы Беларусі. Безумоўна, спадарыня Ніна і ўсе іншыя супрацоўнікі камітэта не чакалі майго візіту — "зваліўся, як снег на галаву" (так трапна заўважыла спадарыня Ніна), але я сапраўды прымчаўся без прамаруджванняў, каб упэўніцца, што ўсё тое, што я прачытаў у "Голасе Радзімы", не чарговая папяровая "фантазія" чыноўнікаў, якія апякуюцца беларускай дыяспарай, а дзейсная справа, якая павінна прынесці ўзаемную карысць: беларусам замежжа і нашай Бацькаўшчыне.

Мае гутаркі са спадарамі Аляксандрам Білыкам, Іванам Яновічам, спадарыняй Нінай Петуховай, Юрыем Уральскім сапраўды абнадзейваюць, што дзяржава павярнулася тварам да нас, беларусаў замежжа, і яе першым клопатам з'яўляецца клопат аб нас, хто апынуўся ў замежжы не па сваёй волі.

Я не збіраўся сёння рабіць нейкі аналітычны артыкул пра дзейнасць Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, які ўзначальвае, дарэчы, украінец сп. Аляксандр Білык, — усё наперадзе, і такі артыкул, безумоўна, з'явіцца. Сёння ж я хачу ад шчырага сэрца падзякаваць Беларускаму ўраду, народу Беларусі, яе Прэзідэнту, якія зрабілі нам такі цудоўны калядны падарунак!

Дзяржаўнаму ж камітэту па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь жадаю поспехаў у рабоце з беларускай дыяспарай блізкага і далёкага замежжа.

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**кіраўнік гурта беларускай культуры "Зорка Венера".**
Украіна, г. Ізяслаў.

**Сёлета спаўняецца 200 гадоў (1798—1998) з дня нараджэння вялікага паэта, нашага земляка Адама Міцкевіча. З гэтай нагоды 1998 год аб'яўлены ў Беларусі Годам Адама Міцкевіча. Адзначаючы юбілей, рэдакцыя мае намер перыядычна друкаваць матэрыялы, прысвечаныя песняру.**

***Першыя заметкі змешчаны ў сённяшнім нумары на 6-й старонцы.***



*СПАДЧЫНА*

# ТАЯМНІЦЫ СПРАВЫ АБАБУРКІ

З гэтай справай, працуючы ў архіве КДБ ЯАССР, я пазнаёміўся амаль два гады назад. Але ізноў ды ізноў у думках вяртаюся да яе, гартаю сшыткі выпісак, усё спрабую зразумець, у чым яе патаемная спружына.

Аб гэтай ахвяры сталіншчыны яшчэ не пісалі. І, я думаю, будзе правільным абмовіць хаця б некалькі слоў не толькі аб смерці, але і аб жыцці Ababуркі.

Міхась Абабурка нарадзіўся ў 1900 годзе ў вёсцы Морач Слуцкага павета Мінскай губерні. Да пятнаццаці гадоў вучыўся ў вясковай школе, а летам працаваў пастухом. Потым дапамагаў па гаспадарцы бацькам. У красавіку 1919 года ўступіў у Чырвоную Армію, дзе служыў пяць гадоў. Пасля службы пайшоў па банкаўскай лініі. У 1928 годзе быў накіраваны з Беларусі ў Маскву на банкаўскія курсы пры Гандлёвай акадэміі. Тут блізка сышоўся з Варфаламеевым — будучым наркамземам ЯАССР. Наслухаўшыся аповядаў аб Поўначы, захацеў і сам папрацаваць там. Варфаламееў заарганізаваў запрашэнне, а атрымаць накіраванне дапамог сакратар ЦК УКП(б) Постышаў. У 1930 годзе Абабурка — у Якуціі. Да 1934 года працуе дырэктарам "Якутзаготпушніны", арганізоўваючы здабычу "мяккага золата". Аб'ехаў усю поўнач Якуціі. Змяніў некалькі пасад. З пачатку 1937 года — начальнік Якуцкага Тэрытарыяльнага кіравання Галоўнага ўпраўлення Паўночнага Марскога Шляху. 31 снежня, за некалькі гадзін да Новага, 1938 года, быў "изъят".

Тут і пачынаюцца таямніцы. У складзенай 29 снежня 1937 года "Справке на арест Абабурко" ў якасці найважнейшага ягонага злачынства называецца пераход ім польскай мяжы "на свидание с матерью" ў 1920 годзе. Як бачым, "преступление" было здзейснена і даўно, і далёка ад Якуціі. А між тым, згодна з даведкай, выдадзенай архівам КДБ ЯАССР у 1956 годзе, калі справа яго пераглядалася, "оперативных материалов на Абабурко... к моменту ареста его в НКВД ЯАССР не имелось". Гэта значыць, груба кажучы, даносаў на яго ў НКУС не паступала. Адкуль жа там стала вядома аб такой даўняй гісторыі?

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

ЧАРНОБЫЛЬ – ГЭТА СУР'ЁЗНА І НАДОЎГА

# ПАКАЛЕННЕ ПАДМАНУТЫХ

***На пытанні карэспандэнта "Голасу Радзімы" адказвае Наталля ГРЫГОР'ЕВА, галоўны дзіцячы псіхіятр Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.***

**— Сёння ў Беларусі жыве прыкладна тры мільёны дзяцей, і ўрачы выказваюць занепакоенасць станам іх здароўя, на якое ўплываюць як сацыяльныя прычыны, так і вынікі чарнобыльскай трагедыі, што прыводзіць да росту дзіцячых захворванняў. Скажыце, калі ласка, Наталля Канстанцінаўна, ці можна сур'ёзна гаварыць аб уплыве вынікаў Чарнобыля на здароўе нашых дзяцей!**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*ЛАЎРЭАТЫ 1997 ГОДА*

**7 студзеня, у дзень Нараджэння Хрыстова, у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета адбылося ўшанаванне лаўрэатаў 1997 года, якім прысвоена званне "Чалавек года" за іх уклад у развіццё культуры. У гэты ж дзень Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў дзесячаў культуры з прысуджэннем прэмій "За духоўнае адраджэнне" 1997 года. Сярод лаўрэатаў — Міхаіл ДРЫНЕЎСКІ, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча, Мікалай КУЗЬМІЧ, мастак, які аднавіў крыж Ефрасінні Полацкай, Таісія МІРОНАВА, мастацкі кіраўнік хору хлопчыкаў пры Мінскім епархіяльным упраўленні Беларускай праваслаўнай царквы, Міхаіл РАСОЛАЎ, пісьменнік, на сродкі якога збудавана царква на Гомельшчыне.**



**НА ЗДЫМКУ: Аляксандр ЛУКАШЭНКА віншуе з прысуджэннем прэміі "За духоўнае адраджэнне" Міхаіла ДРЫНЕЎСКАГА — мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь.**

*ГРАМАДСКАЯ ДУМКА*

## 52 ПРАЦЭНТЫ — ЗА АБ'ЯДНАННЕ

**У лістападзе-снежні 1997 года супрацоўнікамі Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праведзена чарговае апытанне 1 000 жыхароў краіны.**

**Рэспандэнтам, у прыватнасці, прапаноўвалася адказаць на пытанне: "Якія найбольш важныя задачы павінны быць вырашаны ў рэспубліцы ў першую чаргу?" Больш як палова апытаных (56 працэнтаў) звярнулі ўвагу на неабходнасць павышэння ўзроўню жыцця людзей, наяўнасць у магазінах танных і якасных тавараў. 47 працэнтаў рэспандэнтаў лічаць за неабходнае абараняць інтарэсы працоўных і забяспечваць сацыяльную справядлівасць. 25 працэнтаў адзначылі неабходнасць "аднаўлення ранейшых гаспадарчых сувязяў", 23 працэнты — "развіцця рынку, прыватнай уласнасці і прадпрымальніцтва".**

**Па словах загадчыка аддзела сацыялагічных даследаванняў, кандыдата філасофскіх навук Аляксандра Грышчанкі, 29 працэнтаў апытаных грамадзян прыцягвае ідэя стварэння адзінай дзяржавы з Расіяй. 23 працэнты выступаюць за ідэю аб'яднання славянскіх народаў. 15 працэнтаў рэспандэнтаў прыцягвае ідэя "аб'яднання правых і левых для вырашэння агульных для Беларусі праблем".**

**12 працэнтаў указалі на ідэю "планавай дзяржавы", 11 працэнтаў — на неабходнасць "зблíжэння з Захадам". Праваслаўная ідэя прыцягвае 5 працэнтаў апытаных, а ідэя процістаяння Захаду — аднаго са ста (1 працэнт) рэспандэнтаў.**

*НАМІНАЦЫІ*

## КАРОЛЬ НЕПАЛА — ГАНАРОВЫ ДОКТАР БДПА

**Напярэдадні новага, 1998 года на пасяджэнні савета Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі адзінадушна было прысвоена званне "Ганаровы доктар Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі" каралю Непала Бірэндры Біру Бікраму Шаху Дэву за яго асабістую падтрымку праграм падрыхтоўкі спецыялістаў Непала ў БДПА, а таксама наладжванне навуковых сувязей паміж дзвюма краінамі.**

*ПОСПЕХ У МАДРЫДЗЕ*

## ПЕРАМОГ «ІНШЫ»

**1998 год пачаўся для рэспубліканскага вытворча-творчага прадпрыемства "Беларускі відэацэнтр" з радаснай падзеі: на міжнародным фестывалі эксперыментальнага кіно ў Мадрыдзе кінастужка "Іншы", створаная беларускім рэжысёрам Сяргеем Лук'янчыкавым, удастоена галоўнага прыза як лепшы фільм.**

**У Беларускім відэацэнтры паведамілі, што гэта ўжо не першая перамога фільма "Іншы". Дарэчы, з 2 300 работ, што былі прысланы на іспанскі фестываль з усяго свету, у конкурсным паказе ўдзельнічала ўсяго 30, і толькі дзве з іх удастоены галоўнага прыза. Поспех беларускага кінарэжысёра раздзяліў яго амерыканскі калега Піа Ксеры-Брыянес.**

*ПАМЯЦЬ ПРА ДАСТОЙНЫХ*



**У Віцебску адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар былога старшыні Дзяржбуда БССР, народнага архітэктара СССР, акадэміка Акадэміі мастацтваў СССР Уладзіміра КАРАЛЯ.**

*ПЕРСПЕКТЫВЫ ГОДА*

## МАЗАЎ СТАНЕ ЎДВАЯ БОЛЬШ

**Вытворчасць аўтобусаў на Мінскім аўтазаводзе ў гэтым годзе падвоіцца. Іх будзе выпушчана каля 200. У асноўным гэта вядомыя ўжо мадэлі МАЗ-103 і МАЗ-104 для гарадскіх пасажырскіх перавозак, а таксама МАЗ-104С — прыгараднага прызначэння. Характэрна, што каля 30 працэнтаў аўтобусаў мяркуецца адправіць за межы рэспублікі.**

*ФАЛЬШЫВАМАНЕТЧЫКІ ПАГРАЖАЮЦЬ*

## ЧАКАЙ БЯДЫ АД СУСЕДА

**Нацыянальны банк Беларусі папярэдзіў аб магчымым масіраваным выкідзе на ўнутраны рынак нашай краіны фальшывых расійскіх грошай узору 1995 года. Мяркуецца, што для гэтых мэтаў зламыснікі будуць прымяняць спецыяльныя "лялькі" ў пластыкавых банкаўскіх упакоўках. У кожнай такой "ляльцы", што складаецца з тысячы казначэйскіх білетаў, будуць знаходзіцца па сто сапраўдных купюр з абодвух бакоў упакоўкі.**

*ПРЭЗЕНТАЦЫІ*

## ФУНДАМЕНТАЛЬНЫЯ ПРАЦЫ

**У Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася прэзентацыя дзвюх фундаментальных навуковых прац, выпушчаных выдавецтвам "Беларуская навука".**

**Гэта першы том чатырохтомнай "Археалогіі Беларусі" — "Каменны і бронзавы вякі", у якім на вялікім фактычным матэрыяле ўпершыню дадзена абагульненая характарыстыка развіцця першабытнага грамадства ў каменным і бронзавым вяках на працягу амаль трынаццаці стагоддзяў. Гісторыя першабытных плямёнаў на тэрыторыі Беларусі паказваецца на шырокім агульнаеўрапейскім фоне, што дазваляе прасачыць вытокі культур старажытных славян і балтаў.**

**Наступныя тры тамы будуць прысвечаны больш познім перыядам — жалезнаму веку і сярэдневякоўю.**

**Другой прапануемай чытачу кнігай з'яўляецца "Гісторыя сялянства Беларусі. Том І. Ад старажытнасці да 1861 г." Гэта таксама першая кніга з падрыхтаванага да друку трохтомніка. У ёй асветлены працэсы станаўлення і развіцця эканамічнага, сацыяльнага і духоўнага жыцця сялянства Беларусі да сярэдзіны XIX стагоддзя.**

*ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ*

## ГАЛОЎНАЕ — ЯКАСЦЬ ЗАКОНАПРАЕКТАЎ

Новы год беларускі парламент пачаў з падвядзення вынікаў папярэдняй работы. З гэтай нагоды ў Доме ўрада адбылася прэс-канферэнцыя, на якой прысутнічалі Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. Малафееў, яго намеснік У. Канаплёў, старшыні найбольш важных пастаянных камісій.

Увогуле, як вынікала з пачутага, кіраўніцтва ніжняй палаты задаволена дзейнасцю падведамаснага органа. На пасяджэннях у 1997 годзе было разгледжана 230 пытанняў, прынята 146 законапраектаў, з іх 66 ужо ў другім чытанні. Трыццаць чатыры законы ў канцы мінулай сесіі падпісаны Прэзідэнтам. Але галоўнае, як лічаць самі парламентарыі, — своечасовае прыняцце бюджэту краіны. Ён вызначаецца як бюджэт развіцця, дзе прыкладна палова прыбытку выдаткуецца на сацыяльныя патрэбы. Яшчэ адной асаблівасцю новага бюджэту стала зніжэнне падатковай нагрузкі на суб'ектаў гаспадарання, што, як чакаецца, прывядзе да развіцця ініцыятывы і прадпрымальнасці. Па-ранейшаму будуць падтрымлівацца дзяржавай сельская гаспадарка, якой выдзелена 6,4 трыльёна рублёў, што вышэй за затраты 1997 года на 54,5 працэнта, некаторыя экспарцёры (200 мільярдаў рублёў), а таксама сумесныя праграмы ў рамках Саюза Беларусі і Расіі, спецыяльныя праграмы і мерапрыемствы, зацверджаныя Прэзідэнтам і ўрадам. Дэфіцыт бюджэту прадугледжваецца ў памеры 16,7 трыльёна рублёў, або 3,5 працэнта да валавога ўнутранага прадукту.

Адрозненнем леташняга перыяду Анатоль Малафееў назваў распрацоўку законаў, якія тычацца непасрэдна кожнага грамадзяніна краіны, і ў першую чаргу такіх, што будуць рэгуляваць аплату жылля і дэкляраванне даходаў. Канчаткова яны яшчэ не прыняты, бо выклікалі вялікую дыскусію сярод дэпутатаў, аднак работа абавязкова працягнецца і, як спадзяецца старшыня палаты, сёлета завершыцца.

Актыўна вядзецца праца і над складаннем новага Крымінальнага кодэксу. Бо старому ўжо 36 гадоў. У ім, па словах А. Малафеева, ёсць артыкулы, дзе за 3—4 мільёны рублёў (на сёння гэта меней за 100 долараў) можна трапіць за краты на 3—4 гады. Аднак не варта думаць, што змяненні атрымаюць толькі "змякчальны" характар. Пакаранне за шэраг цяжкіх злачынстваў узмоцніцца. Праўда, у выступленнях адказных асоб на прэс-канферэнцыі пакуль не было вызначана, якія канкрэтна дзеянні аднесены да разраду "цяжкіх". А вось Закон "Аб органах дзяржаўнай бяспекі" зусім нядаўна ўжо ўступіў у сілу.

У другім чытанні Палата прадстаўнікоў прыняла праект Закона "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні". Гэты акт распаўсюджваецца як на грамадзян Беларусі, так і замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў рамках іх правоў і свабод, прадугледжаных заканадаўствам. Адпаведна новаму закону ў час правядзення разнастайных грамадскіх акцый забараняецца ствараць перашкоды руху транспарту і пешаходаў, функцыяніраванню прадпрыемстваў і ўстаноў, нельга мець пры сабе зброю і іншыя небяспечныя для людзей рэчы, выкарыстоўваць незарэгістраваныя ва ўстаноўленым парадку флагі і вымпелы, а таксама эмблемы, сімвалы, плакаты і г. д., змест якіх наносіць урон грамадскаму парадку, правам і інтарэсам грамадзян, зневажае гонар асобы і г. д.

На прэс-канферэнцыі была закранута і балючая тэма ізаляцыі беларускага парламента на міжнароднай арэне. Анатоль Малафееў вызначыў узнікшае становішча як розыгрыш карты ў буйной палітычнай гульні. Пра саму гульню сказаў наступным чынам: "Мы — "неслухі" ў адносінах да некаторых еўраструктур. І ў першую чаргу з-за супрацоўніцтва з Расіяй, нашага саюза, якога на Захадзе вельмі не хочуць. Аднак якія б палкі ў колы нам ні ставілі, караван ідзе. Другое. Мы хочам развіваць сваю краіну, эканоміку, грамадства адпаведна нацыянальным інтарэсам. І трэцяе. Мы не прымаем пашырэння НАТО на Усход. Бо часам свет развіваецца так, што вяртаецца да ранейшых дрэнных, негатыўных пазіцый". Гаворачы пра цяжкасці ў супрацоўніцтве з еўрапейскімі арганізацыямі, Анатоль Малафееў адзначыў: справа не ў парламенце, а ў тым, што нехта не хоча прызнаваць рашэнні апошняга рэферэндуму, выбар народа. У гэтым сэнсе ён параўнаў становішча на Беларусі са становішчам на Кубе, дзе нядаўна быў з візітам. Аднак нягледзячы ні на што, старшыня Палаты прадстаўнікоў верыць: час растопіць гэты лёд, хаця не заўтра і не паслязаўтра.

Ну а сёння ў парламенце складаюцца планы наступных слуханняў. Чарговая сесія распачне сваю работу вясной. І галоўным стане, як вызначаюць дэпутаты, — якасць законапраектаў.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

*ЭКАЛАГІЧНЫ ЦЭНТР*




**Паўвекавы юбілей адзначыў экалагічны цэнтр, створаны пры Віцебскім абласным аб'яднанні па пазашкольнай рабоце. На святкаванні юбілею былі прадстаўлены творчыя работы яго ўдзельнікаў, калекцыі мінералаў, сабраных дзецьмі, вырашчаныя імі пакаёвыя расліны.**

**НА ЗДЫМКУ: арыгінальны букет з кветак аформілі да юбілею юннаты Крысціна ХАЧАТРАН, Ірына ДВОРАК і Ірына ЦВЯЦІНСКАЯ.**





# КАЛЯДЫ

**Весела адзначылі свята Нараджэння Хрыстова з абрадам Каляд у пасёлку Мір на дзяржконезаводзе-камбінаце "Мір" Баранавіцкага раёна. Тут заўсёды ў цэнтры ўвагі самадзейныя артысты з народнага ансамбля музыкі і песні "Мірскія музыкі" Мірскага дома культуры. Яны валодаюць усімі тонкасцямі абраду, маюць у сваім рэпертуары многа песень і жартаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі калектыву "Мірскія музыкі" — намеснік начальніка комплексу дзяржконезавода Аляксандр ШАЛІК і работніца Дома культуры Галіна ХВАЛЬКО; самадзейныя артысты калядуюць; у ролі цыганак — вучаніцы мясцовай сярэдняй школы Святлана САЧАНКА (справа) і Таццяна ЛУКАШЭНКА.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**



# ПАКАЛЕННЕ ПАДМАНУТЫХ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

— Можна, бо вынікі ўплыву малых доз радыяцыі ўжо відавочныя. Ад іх пакутуе імунная сістэма, і хваробы, якія раней за некалькі дзён здымаліся чаем з малінай ці малаком з мёдам, сёння лечацца наймацнейшымі антыбіётыкамі. На першае месца выходзяць саматычныя захворванні, прычым апошнім часам павялічваецца паталогія эндакрыннай сістэмы, пухлін мозгу, нават такія захворванні апорна-рухальнай сістэмы, як радыкуліт, астэапароз, якія зноў жа стымулююцца малымі дозамі радыяцыі. І калі на першае месца выходзяць эндакрынныя і саматычныя захворванні, то на трэцім месцы нервова-псіхічныя паталогіі. У Беларусі на кожную тысячу дзіцячага насельніцтва прыпадае 29 дзяцей з нервова-псіхічнымі і 19,1 — з псіхічнымі захворваннямі.

Прагрэсіруючымі тэмпамі растуць пагранічныя расстройствы дзіцячага ўзросту, якія складаюць 10,6 на 1 000 дзяцей. Расце дзіцячы цэрэбральны параліч, алігафрэнія, затрымкі псіхічнага развіцця. Мы вымушаны адкрываць усё больш спецыялізаваных дашкольных устаноў і школ. Ужо абаронены дысертацыі, у якіх адзначаецца, што такія хваробы, як шызафрэнія, сёння працякаюць значна цяжэй, чым раней, ідзе трансфармацыя адных сіндромаў у іншыя, часцей здараюцца абвастрэнні шызафрэнічнага працэсу, павялічваецца колькасць захворванняў на эпілепсію, эпілептычныя параксізмы.

**— Вы згадалі сацыяльныя фактары ў ліку тых, што ўплываюць на здароўе нашых дзяцей. Ці нельга больш падрабязна спыніцца на іх!**

— Павялічваецца колькасць дзяцей з нервова-псіхічнымі захворваннямі, прычынамі якіх з'яўляюцца адмоўныя ўмовы знешняга асяроддзя, шкодныя ўмовы працы цяжарных жанчын, унутрывантробнае інфіцыраванне. Здароўе дзяцей і маці пагаршаецца з-за элементарнай беднасці, якая не дазваляе паўнацэнна харчавацца маці ў час цяжарнасці, ды і дзецям пасля іх з'яўлення на свет. Калі раней дзеці атрымлівалі дастаткова бялкоў — мяса, рыбы, то цяпер ідзе замена гэтых прадуктаў бульбай і хлебам. І гэта адбываецца ў той перыяд, калі фарміруецца чалавечы мозг... Умовы жыцця такія, што дзіця, яшчэ не нарадзіўшыся, развіваецца ў стане стрэсу, які перажывае маці. Адсюль вялікая колькасць дзяцей, што з'яўляюцца на свет з прыроджанай паталогіяй. Магчыма, таму асобую трывогу ва ўрачоў выклікаюць дзеці да трох гадоў. Праведзенае сіламі шматпрофільных брыгад абследаванне выявіла нервова-псіхічныя расстройствы ў 41,3 працэнта дзяцей з ліку абследаваных. Не варта скідваць з рахунку і той факт, што ў сённяшніх эканамічных умовах абодва — бацька і маці павінны працаваць, каб забяспечыць сям'ю хаця б самым неабходным. Жанчына зарыентавана на вытворчую дзейнасць, моцная загружанасць жанчын прыводзіць да цэлага шэрагу праблем у фарміраванні сямей і іх стабільнасці.

**— Ці заўсёды псіхічныя расстройствы носяць яўны характар!**

— Практычна ў 40 працэнтаў дзяцей, якія ляжаць у нашых бальніцах, самыя звыклыя хваробы звязаны са стрэсавымі сітуацыямі. На фоне стрэсу развіваюцца гастрыты, бранхіяльная астма, язвавая хвароба, гіпертанія, якая ў дзяцей раней фіксавалася крайне рэдка. Здараецца, што ўрачы не знаходзяць ніякай арганічнай паталогіі, а сардэчныя прыступы ці прыступы астмы працягваюцца, і здымае іх не традыцыйнае для гэтай хваробы лячэнне, а псіхатэрапеўтычнае ўздзеянне. Таму цяпер у буйных бальніцах з'явіліся стаўкі псіхатэрапеўтаў.

**— Раней лічылася, што малалетнія правапарушальнікі — гэта ў асноўным дзеці з нешчаслівых сем'яў. А цяпер!**

— Апошнім часам пракаціўся сапраўдны вал правапарушэнняў сярод дзяцей і падлеткаў. Прычым, размова ідзе аб вельмі сур'ёзных злачынствах — забойствах, грабяжы, прастытуцыі. І калі раней пераважалі правапарушэнні сярод сірот, у сем'ях алкаголікаў, то цяпер іх усё часцей і часцей учыняюць дзеці з забяспечаных слаёў грамадства. Дзіцячая злачыннасць расце, прычым злачынствы носяць больш цяжкі, жорсткі характар з ярка выяўленым станам агрэсіі. Сярод правапарушальнікаў усё больш і больш дзяўчынак. Злачынцы памаладзелі, і калі раней гэта былі падлеткі 14—16 гадоў, то цяпер закон парушаюць і 10—12-гадовыя дзеці. Змянілася і структура злачыннасці, сярод правапарушальнікаў становіцца ўсё больш разумных злачынцаў. У той жа час расце колькасць злачынцаў з ліку дзяцей з затрымкамі псіхічнага развіцця. Сёння гэта вельмі сур'ёзная група рызыкі, што папаўняе шэрагі правапарушальнікаў. Па паказчыках росту злачынстваў сярод малодшых падлеткавых груп Беларусь займае другое месца пасля Расіі.

У нас на абследаванні знаходзіцца хлопчык, якому няма яшчэ чатырнаццаці гадоў. Разам з братам ён вечарам сустрэў равесніка, на якім была добрая куртка. Яны яе адабралі, а падлетка збілі, а затым утапілі ў неглыбокім вадаёме, што знаходзіўся побач. Некалькі дзяцей, гуляючы, сталі збіваць брата аднаго з іх. Калі ён пачаў крычаць, дзеці літаральна азвярэлі і забілі яго, прыціснуўшы труп вялікім валуном. Праведзеная экспертыза паказала, што ўсе яны нармальныя, звычайныя дзеці, без якіх-небудзь паталогій і злачынства яны здзейснілі зусім свядома, а не пад уздзеяннем якой-небудзь хваробы.

**— Як, на ваш погляд, цяпер ажыццяўляецца псіхалагічная і псіхіятрычная дапамога дзецям!**

— Мы нярэдка сутыкаемся з тым, што падлеткі к 15—16 гадам перастаюць цікавіцца вучобай, кідаюць школу. Вельмі часта шлях да злачынства пачынаецца з канфлікту — у школе з аднакласнікамі, настаўнікамі ці дома з бацькамі. Не зразуметыя там, дзеці і падлеткі часам знаходзяць аднадумцаў у крымінальным асяроддзі. Сёння ў школах і дашкольных установах уводзіцца пасада псіхолагаў, але яны проста не ведаюць, чым займацца. У лепшым выпадку, псіхолаг у школе працуе як выхавальнік, хаця гэта не яго функцыя, ён павінен займацца канкрэтнымі канфліктнымі сітуацыямі.

Вельмі рэдка звяртаюцца па дапамогу да дзіцячых псіхіятраў сельскія жыхары, што тлумачыцца больш цяжкімі, чым у горадзе, умовамі жыцця ды і проста адсутнасцю кваліфікаванай медыцынскай дапамогі ў аддаленых вёсках.

**Гутарку вяла Вераніка ЧАРКАСАВА.**

З ГІСТОРЫІ ВЁСКІ

# ІВАНЬ

Івань — старажытная вёска на Случчыне. Па сваёй прыгажосці гэты цудоўны куточак беларускай зямлі можа паспрачацца са славутымі краявідамі свету. Івань прытулілася кіламетры за тры ад заходняй ускраіны Слуцка. Хто быў той Іван, імя якога дало назву паселішчу, адкуль прыйшоў і чым вызначыўся, тутэйшым старажылам і нам невядома. Не выключана, што назва вёскі паходзіць не ад імя аднаго чалавека, а ўтварылася ад множнага ліку Іваны, месца, дзе жыло шмат людзей з такім іменем, — Івань. Дарэчы, зараз у вёсцы гэтае імя носіць толькі адзін чалавек — яе старэйшы жыхар Іван Яфімавіч Давідовіч.

Гісторыю вёскі ніхто і нідзе не фіксаваў, таму дакладны час яе заснавання губляецца ў смузе стагоддзяў. Аднак ёй не менш 600 гадоў. Ёсць звесткі, што яшчэ ў 1395 годзе Івань перайшла ад слуцкага князя Юрыя з роду Рурыкавічаў да князя Уладзіміра Альгердавіча і знаходзілася ва ўладанні яго нашчадкаў (князёў Алелькавічаў) да пачатку XVII стагоддзя. Выдадзены ў Пецярбургу ў 1846 годзе зборнік "Акты, якія адносяцца да гісторыі заходняй Расіі, сабраныя і выдадзеныя Археаграфічнай камісіяй" прыводзіць дакумент, пазначаны 1499 годам. У ім гаворыцца: "Маюць права князь Сямён Міхайлавіч і яго нашчадкі трымаць горад Слуцк з усімі дварамі, якія да Слуцка адносяцца, пад назвай Івань і Пагост, а таксама Аговічы і з усімі валасцямі Слуцкага павета..." Тут названы найбольш буйныя паселішчы, прыпісаныя да Слуцка і яго тагачаснага ўладальніка.

Блізкасць да цэнтра княства садзейнічала развіццю паселішча, але як толькі хто з заваёўнікаў "клаў вока" на Слуцк, даставалася і яго прыгарадам. Асабліва цяжкія спусташэнні вёска перажыла ў час набегаў крымскіх татар у пачатку XVI стагоддзя, у вайну 1654—1667 гадоў. Ды і потым Івань не раз узнімалася з руін і папялішчаў...

У 1704 годзе маёнтак князёў Радзівілаў — Івань налічваў 518 сялянскіх двароў, насельніцтва складала крыху больш за тры тысячы чалавек. Для параўнання: у Слуцку ў тыя часы жылі каля сямі з паловай тысяч чалавек.

У 1838 годзе ў Івані пачаў дзейнічаць цукровы завод. Найбольшай прадукцыйнасці ён дасягнуў у 1861—1862 гадах, калі 105 рабочых за суткі перапрацоўвалі па 700 пудоў буракоў, якія вырошчваліся ў навакольных вёсках. Прадукцыя пастаўлялася ў Мінск і Слуцк і была нядрэннай якасці. Аб гэтым сведчыць тое, што ў 1878 годзе цукар заводскай вытворчасці дэманстраваўся ў губернскім музеі ў Мінску. Аднак вясковы завод не мог доўга вытрымліваць канкурэнцыю і ў 1881 годзе спыніў сваё існаванне. Праз некаторы час у яго памяшканні адкрылася вінакурнае прадпрыемства. Пры спрыяльных абставінах Івань магла б стаць вялікім паселішчам, асабліва пасля таго, як праз яе прайшоў участак Маскоўска-Варшаўскай шашы. Аднак у пачатку XX стагоддзя вёска налічвала толькі 140 жыхароў. Дарэчы, у тагачасных дакументах яна называлася сялом, мабыць, таму, што ў ёй мелася царква, бо ні па колькасці жыхароў, ні па ролі ў сацыяльна-эканамічным жыцці наваколля яна да ўзроўню сяла "не дацягвала". У 1930-х гадах царкву разабралі, а з матэрыялаў пабудавалі дзіцячы сад...

Сёння ў Івані, па звестках сельсавета, жыве 71 чалавек, палова з іх — пенсійнага ўзросту. З двух дзесяткаў працаздольных жыхароў вёскі нехта працуе ў мясцовым калгасе "1-е Мая", а большасць — на слуцкіх прадпрыемствах. Непатрэбнымі іваньцам аказаліся і дзіцячы сад, і радзільны дом, і сталовая, і многія гаспадарчыя пабудовы, што былі тут некалі. Не засталося следу і ад парку, які, па ўспамінах вясковых старажылаў, быў прыгажэйшы за слуцкі. Моладзь з вёскі з'ехала ў горад, вяскоўцы сярэдняга ўзросту працуюць у Слуцку. Але, ідучы да шашы, на ўзгорку ўбачылі мы трактары, якія вывозілі на поле арганіку пад будучы ўраджай. Значыць, нягледзячы ні на што, калгас жыве і спраўна пастаўляе мяса і малако дзяржаве. Былыя калгасніцы, а зараз пенсіянеркі, памятаюць іншую вёску, калі было ў ёй шмат дарослых і шмат дзяцей, а цяпер...

**Віктар ЖЫБРЫК.**

# ТАЯМНІЦЫ СПРАВЫ АБАБУРКІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Пераходу мяжы быў прысвечаны першы допыт у дзень арышту (які гэта быў страшны пераднавагодні дзень для Абабуркі!). Арыштаваны патлумачыў, што ў 1920 годзе (у далейшым высветлілася, у 1921-м) ён скончыў пяхотныя курсы камсаставу. І папрасіў адпачынак, каб да службы наведаць бацькоў. Але калі дабраўся да родных мясцін, выявілася, што ягоная вёска адышла да Польшчы. Што было рабіць? Няўжо вяртацца, не пабачыўшы блізкіх? "В селе Мокраны я зашел в комендатуру красных пограничников... попросил разрешения перейти границу... мне сказали, никакого разрешения не дадим, так как меня на территории Польши могут арестовать. Но я все же не послушался и прямо в военной форме, вооруженный, перешел границу к своим родителям, расстояние от советской границы всего было 3,5 километра (...) Пришел в село я днем через огород отца, его в доме не было, была только мать и малые дети. Вскоре пришел отец, сказал мне: лезь скорей на печь и сиди там, так как в селе находятся польские войска. Я просидел на печи до вечера, вечером я слез с печи (...) Утром, как рассвело, мы вместе с отцом перешли на советскую "территорию".

Вось, уласна, і ўсе "преступления". Але ў нкусаўцаў быў яшчэ і другі пункт абвінавачванняў: маўляў, Абабурка "вредительски развалил" працу гандлёвай палаты, якую ўзначальваў. У доказ быў прыведзены на 150 (!) старонках "Акт", складзены трыма "экспертами" — калегамі Абабуркі. Абабурка прызнаў асобныя недахопы, шкодніцтва ж рашуча адхіліў, сказаўшы, што "эксперты" не разабраліся ў дакументах.

Увогуле ж на допытах ён трымаўся цвёрда, упэўнена і ў той жа час прастадушна, як чалавек, якому няма чаго хаваць. Не хітраваў, не выдыгаў, як і належала былому вайскоўцу. Распавёў, што прыкладна ў 1924 годзе мяжу з Польшчы ў СССР **пераходзіла і ягоная маці** — каб сустрэцца з ім, што пры гэтай сустрэчы ён угаварыў маці адправіць да яго праз мяжу малодшага брата Хвядоса. (Чатырнаццацігадовы хлопчык сапраўды перайшоў мяжу, але.... быў арыштаваны за гэта і судзімы. На шчасце, па маладосці гадоў "простили", аддалі "на поруки"). Прызнаўся, што пісаў маці лісты ў Польшчу, расхвальваючы "хорошую жизнь в СССР", але адказу не атрымаў.

Дакладна, адкрыта казаў і аб сваіх узаемаадносінах з былым Старшынёй Саўнаркома ЯАССР, да таго часу ўжо арыштаваным. "Расскажите, — патрабаваў следчы, — все вам известное о контрреволюционной, вредительской деятельности бывшего предсовнаркома Шараборина".

"Мне известно, — адказваў Абабурка, — што Шараборин в 1929 году работал секретарем Булунского окружкома. Путем перегиба политики партии и правительства при раскулачивании, коллективизации и проведении антирелигиозной компании вызвал бандитизм (...). Будучи посланным в Булун для районирования округа, я вскрыл эти факты и установил, что в создании недовольства среди населения и в вызове бандитизма виновны исключительно Шараборин и бывший председатель Булунского окрисполкома Колмогоров. О преступной деятельности Шараборина... я ставил вопрос в 1931 году в Якутском обкоме,.. где мой проект... принят не был... Я был вынужден подчиниться большинству."

Відаць, гэта гісторыя следчаму добра вядомая, ён перапыняе: "Какую вредительскую работу проводил Шараборин по контрактации пушнины?" На гэта Абабурка адказвае: "Никакого вредительства Шараборина по контрактации пушнины не замечал". Між тым, сам Шараборын на допыце 20 снежня 1937 года ўжо паспеў абгаварыць сябе: "По пушным заготовкам руководимая мною организация считала, что спускаемые планы по заготовке пушнины при их выполнении ведут к истреблению пушных ресурсов Якутии (...) Поэтому принимали все меры к срыву выполнения пушзаготовок". Што гэта было няпраўда, сведчыць пратакол допыту Абабуркі ад 30 сакавіка 1938 года, з якога даведваемся, што "Якутзаготпушнина", якой ён кіраваў, прэміравалася легкавым аўтамабілем "за перевыполнение плана пушнозаготовок".

Адным з галоўных спосабаў НКУС зрабіць з сумленнага чалавека "врага" было працягнуць нітачку паміж ім і кімсьці з ужо "разоблаченных". Абабурка гэта, вядома, разумеў. Але казаў (пратакол допыту ад 23 студзеня 1938 года): "С бывшим предсовнаркомом ЯАССР Шарабориным я был в очень близких отношениях, систематически посещал его квартиру по адресу Октябрьская улица, дом № 1, ездил к Шараборину на дачу, а также изредка бывал на моей квартире и Шараборин, точно сказать, сколько я бывал у Шараборина и встречался с ним вообще, сказать не могу, но этих встреч и посещений было очень много".

Відаць, гэткая адкрытасць выбівала карты з рук следчага Дзмітрыеўскага, не давала арганізаваць па-сапраўднаму гучную справу. Абабурку за "развал торговой конторы" пагражаў тэрмін, але, відаць, не вельмі вялікі, палітычных жа абвінавачванняў сфабрыкаваць не атрымалася. 22 красавіка 1938 года арыштаванаму было абвешчана аб сканчэнні следства. Здавалася, справа будзе вось-вось перададзена ў суд. І раптам у ёй з'яўляецца новы дакумент — копія пратакола допыту ад 23 красавіка другога падследнага — Андрэеўскага. З яго паказанняў вынікае, што Абабурка ўваходзіць у контррэвалюцыйную арганізацыю на чале з Шараборыным (і гэта ў той час, калі сам Шараборын у складзе "организации", названы ім, Абабурку не ўключыў).

Пратакол допыту Андрэеўскага — другая загадка справы Абабуркі. І вось чаму: перасследствам, праведзеным у 50-я гады, было даказана, што Андрэеўскі ўвогуле не называў Абабурку ні на адным допыце.

Але фальшыўка спрацавала. Да абвінавачвання па артыкулу 58-7 (эканамічнае шкодніцтва) дабаўляецца 58-11 (удзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі). А ў "Справке по делу 747", пададзенай на пасяджэнне "Особой тройки при НКВД", Абабурка ўжо не толькі контррэвалюцыянер — шкоднік ды польскі шпіён, але яшчэ і шпіён японскі, які "с 1930 года... установил связь с японским шпионом Шарабориным, собирал шпионские сведения в пользу Японии". 21 кастрычніка "тройка" прысудзіла яго да расстрэлу.

І тут пачынаецца трэцяя загадка справы Абабуркі. 23 кастрычніка надыходзіць прадпісанне наркома Дарафеева: расстраляць. Але Абабурку не расстрэльваюць адразу. Яму даюць аловак і паперу: пішы! І 28 кастрычніка ён піша сведчанне "о своей контрреволюционно-вредительской работе и шпионской, начиная с 1921 года по день ареста". "Первое преступление я совершил весной 1921 года, — пачынае ён, — когда после окончания... командных курсов поехал на родину в отпуск". Размова ізноў аб пераходзе мяжы, што называецца "преступлением". Але з'яўляюцца новыя дэталі. Аказваецца, перайсці мяжу яму параіў жыхар суседняй вёскі, "знакомый по работе в отряде и Красной Армии периода 1919—1920 г.г. некто Митрофан Чернышевич. Он мне сказал, что работает на границе по закордонной разведке, имеет связь с моей родиной... и уговорил пойти домой через границу нелегально, заявив, чтобы в случае чего-либо опасного дома, явился к объездчику с. Морочь Коморникову, он все устроит".

Гэта значыць, Чарнышэвіч ажыццяўляў шпіянаж за польскім памежжам, а Каморнікаў быў ягоным агентам. Магчыма, прыводзячы падрабязнасці, Абабурка спадзяваўся, што ягоны пераход польскай мяжы трохі страціць у цане.

Але ён, відаць, не ведаў, што Мітрафан Чарнушэвіч (а не Чарнышэвіч), ягоны стары знаёмы, сам быў арыштаваны ў далёкай Беларусі як "троцкист" і што 27 лістапада 1937 года назваў Абабурку (пераблытаўшы імя) як чалавека, з якім вучыўся разам на камандзірскіх курсах. ("Абабурко Григорий, член ВКП(б), в настоящее время работает Наркомфином в одной из национальных республик востока").

Звесткі аб арыштаваных і іхніх сувязях па сістэме НКУС рассылаліся цыркулярна. Таму і ў Якуцкі НКУС магла паступіць папера, што арыштаваны Чарнушэвіч, які меў "связь" з нейкім наркамфінам "одной из республик востока" Абабуркам. Аб гэтым сведчыць далейшая хада падзей. 30 кастрычніка Абабурку ізноў выклікаюць на допыт (пратакол афармляюць 20 кастрычніка, падладжваючы пад пасяджэнне "Тройки" 21 кастрычніка). І на гэтым допыце ў параўнанні з пісьмовым сведчаннем Абабуркі ўсё перакульваецца: Чарнушэвіч ператвараецца з савецкага шпіёна ў польскага, і Абабурка не проста ідзе за кардон пабачыць родных, а нясе пакет Каморнікаву. У сваю чаргу, і Каморнікаў перадае пакет Чарнушэвічу праз Абабурку...

Як здабываліся гэтыя "сведения" з Абабуркі, паказваюць успаміны двух людзей, арыштаваных у 1938 годзе, але якія засталіся ў жывых. Г. І. Іваноў, былы нам. старшыні СНК ЯАССР: "В камере встретил Абабурко М. Г., избитого до такого состояния, что он мог только лежать на боку, кожа на заднице, и на ногах, и на спине болталась клочьями... его избивали, кроме Петрова, Доброклонский, Дмитриев (дакладней, Дзмітрыеўскі. — **І. Л.**) и другие". А. Е. Кралін, былы нам. наркома сацзабеспячэння: "Я всегда слыхал стоны, крики и шум в других кабинетах следователей, однажды я увидел что т. Абабурко... волочился по коридору следственного здания".

Дарэчы сказаць, каталі Абабурку, здабываючы сведчанні на Чарнушэвіча, аказваецца, дарма: справа ў адносінах яго была спынена яшчэ 27 верасня 1938 года, а ў лістападзе ён і ўвогуле быў адноўлены ў партыі. Абабурка ў тым жа лістападзе быў пакараны смерцю, аб чым сведчыць наступны дакумент:

"АКТ

1938 года, ноября 25 дня. Мы нижеподписавшиеся: нач. 3 отдела УГБ НКВД ЯАССР — лейтенант госбезопасности Доброклонский Н. Н., начальник 8 отделения — мл. лейтенант Ларионов, комендант НКВД ЯАССР — сержант госбезопасности Пушкарев Н. Н., составили настоящий акт в том, что на основании предписания Вр. Наркома Внутренних дел ЯАССР — капитана госбезопасности т. Дорофеева от 23 октября 1938 года привели в исполнение решение Тройки НКВД ЯАССР от 21 октября 1938 года по делу № 747 Абабурко Михаила Григорьевича 1900 г. рождения, осужденного к высшей мере наказания — расстрелу. Абабурко Михаил Григорьевич в 00 часов 45 минут 25 ноября 1938 г. расстрелян и труп предан земле".

Хіба не адчуваецца па ўсім сказаным тут, што хтосьці ўзмоцнена дамагаўся для Абабуркі менавіта гэткага канца? Але хто і чаму? Каму перашкаджаў гэты чалавек?

Можа, не вельмі ўжо далёкі ад ісціны калега Абабуркі па гандлёвай канторы Іван Ішуткін, які пісаў 12 лістапада 1956 года (з матэрыялаў перасследства): "В моей памяти Абабурко сохранился как скромный, очень внимательный, хорошо знающий свое дело руководитель. Из его недостатков как человека необходимо сказать о большой склонности к женщинам, от этого не клеилась личная семейная жизнь кой у кого из работников НКВД, у кого конкретно, по фамилии я назвать не могу. Из рассказов бывшего кучера Абабурко, фамилии которого я не помню, — рассказывал мне, что М. Г. Абабурко с моими патефонными английскими пластинками ездил к женам работников НКВД, мужья которых работали по ночам. Это могло иметь пристрастное отношение при допросе Абабурко".

Бесшабашны чырвоны камандзір, узнагароджаны за храбрасць імянным гадзіннікам, ён пляваў на змрочных нкусаўцаў, смяяўся з іх. І яны адплацілі за гэта.

**Іван ЛАСКОЎ.**

*На беларускую мову пераклаў Алесь БАРКОЎСКІ з выдання: Иван Ласков "Тайна дела Абабурко" ("Молодежь Якутии", 1.IV.93 г. Якутск).*



**Міхась Рыгоравіч і Бася Адольфаўна з дачкою Клараю. 1924 год.**

МІЛАСЭРНАСЦЬ

## ІТАЛІЯ — КРАІНА ШЧЫРЫХ СЯБРОЎ

Штогод дзесяткі вучняў Дзятлаўскай школы-інтэрната адпачываюць у Італіі, папраўляюць сваё здароўе пасля чарнобыльскай бяды. А нядаўна да выхаванцаў гэтай навучальнай установы прыехалі італьянцы з горада Чэрынёла: святар Мікола Манаколі, Анжэла Санкт-Анжэла, Віто Панеб'янка і іншыя. Менавіта ў гэтых сем'ях жывуць дзеці ў час аздараўленчых паездак у цудоўную краіну.

Замежных гасцей хлебам-соллю, шчыра сустракалі навучэнцы, настаўнікі і выхавацелі школы. І былі тут радасныя абдымкі, і былі тут хвалюючыя ўспаміны, і былі тут слёзы... Многія дзеці сталі для італьянцаў як родныя, іх заўсёды чакаюць, іх прыезду заўжды рады.

Замежныя госці цікавіліся ўмовамі жыцця ў інтэрнаце, пытаннямі арганізацыі і ўдасканалення навучальна-выхаваўчага працэсу, работай гурткоў і г. д.

З гэтай нагоды ў школе адбыўся святочны канцэрт мастацкай самадзейнасці. Дзеці з дарагімі гасцямі спявалі песні, танцавалі, жартавалі. Словам, весяліліся ад душы. Усе засталіся вечарам-сустрэчай вельмі-вельмі задаволеныя.

Госці азнаёміліся са славутымі мясцінамі горада і раёна, наведалі сталіцу нашай краіны Мінск. Італьянцам вельмі спадабалася гасціннасць простага беларускага народа, яго працавітасць і душэўнасць.

Хутка зноў група выхаванцаў школы-інтэрната з Дзятлава паедзе за мяжу адпачываць, набірацца новых сіл. Італія стала для іх краінай здароўя і новых шчырых сяброў.

**Іосіф ЗАЯЦ.**

З ЛАТВІІ

## ДОБРАЯ ВЕСТКА З БРАСЛАВА

Як нядаўна стала вядома, у Браславе адкрыты консульскі пункт Латвійскай Рэспублікі. Аб гэтым хадайнічалі сябры культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" і Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе. Гэтае пытанне сярод шэрагу іншых старшыня "Уздыму" падымаў на сустрэчы прадстаўнікоў беларускіх суполак у Латвіі з міністрам замежных спраў Латвіі спадаром Біркаўсам, а потым — на сустрэчы прадстаўнікоў нацыянальных і культурных суполак з прэзідэнтам Латвіі спадаром Ульманісам у Даўгапілсе. Зараз нашым суайчыннікам, якія жывуць недалёка ад беларуска-латвійскай мяжы, не трэба будзе ездзіць у далёкі свет (за 280 кіламетраў) па візы ў Віцебск. Можна ўявіць, якая гэта эканомія і грошай, і часу.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**
г. Даўгаўпілс.

## ГІСТОРЫЯ АДНОЙ ФАЛЬСІФІКАЦЫІ

# «ПАВ» БЫЛА СТВОРАНА ЧЭКІСТАМІ

"Следствам па справе выкрытай і ліквідаванай контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі "Польскай арганізацыі вайсковай" устаноўлена, што ў дзейнасці паўстанцкай прымалі ўдзел..." — такія словы з пастаноў на арышт былі запісаны ў справы многіх тысяч палякаў і беларусаў, рэпрэсіраваных у 1937—1938 гадах не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і ў Маскве, Пяцігорску, Растове, Казахстане, Сібіры і іншых вялікіх і малых населеных пунктах усяго былога Савецкага Саюза. Практычна ўсіх іх абвінавацілі тады ў арганізаванай змове супраць савецкай улады. Арганізацыйнай формай гэтай змовы, на думку работнікаў НКУС, павінна была быць нейкая падпольная контррэвалюцыйная арганізацыя, пад непасрэдным кіраўніцтвам якой і па яе прамому ўказанню павінны былі дзейнічаць "ворагі народа" з польскімі і беларускімі прозвішчамі і імёнамі. І зусім не важна, што

Для супрацоўнікаў УНКУС па Захсібкраі было зусім не важна, што некаторыя з "членаў" гэтага "камітэта" не толькі былі незнаёмыя адзін з адным, але і з'яўляліся людзьмі процілеглага светапогляду, былі ідэйнымі ворагамі... Гэта зусім не бянтэжыла людзей з "халоднай галавой", узброеных марксісцка-сталінскай дыялектыкай аб тым, што процілеглыя сілы збліжаюцца, калі яны абедзве настроены супраць... савецкай улады. З архіўна-следчымі справамі некаторых "членаў" указанага камітэта ўдалося пазнаёміцца і, такім чынам, больш падрабязна вывучыць гісторыю іх жыццёвага шляху.

Лёс падрыхтаваў сыну патомнага дваранiна Гродзенскай губерні Аляксандру Сасенку ваенную кар'еру яшчэ да яго нараджэння. Мяркуйце самі: ваенным быў дзед, бацька, Аляксандр на службе ў рускага цара дайшоў да чыну палкоўніка і, выйшаўшы ў адстаўку, жыў у горадзе Замосце Люблінскай губерні.

такой арганізацыі не існавала — яна была створана ў нетрах НКУС.

Стараннямі работнікаў НКУС была прыдумана магутная нацыяналістычная "Польская арганізацыя вайсковая", якая нібыта мае свой арганізацыйны цэнтр у Маскве і адпаведныя "камітэты" і "цэнтры" ва ўсіх рэгіёнах Савецкага Саюза. Вось яны і павінны былі, на думку чэкістаў, на месцах займацца фарміраваннем паўстанцкіх легіёнаў, збіраць шпіёнскія звесткі праз сваіх падначаленых і перадаваць іх "заказчыку" — другому польскаму генштабу, а таксама непасрэдна весці падрыхтоўку да ўсеагульнага выступлення супраць савецкай дыктатуры ва ўстаноўленыя дзень і гадзіну...

Справа на "ПАВ" — адна з самых масавых пасля спраў "РОВСа" і "Саюза выратавання Расіі" і яркі прыклад лінейных арыштаў — арыштаў па нацыянальнай прыкмеце. Філіялы арганізацыі "ствараліся" органамі НКУС у абсалютнай большасці не толькі цэнтральных раёнаў краіны, але і ў Заходне-Сібірскім краі, Усходняй Сібіры, на Урале. Тым больш, што складанасцей гэта не выклікала — працэнт палякаў і беларусаў, якія пражывалі там (яны перш за ўсё ўключаліся ў спісы асоб, што праходзілі па справах "ПАВ"), быў досыць высокі ў выніку іх перасялення ў Сібір у канцы мінулага і пачатку гэтага стагоддзяў.

Прэамбула абвінаваўчага заключэння заўсёды заставалася нязменнай, мяняліся толькі прозвішчы ды назвы населеных пунктаў, "факты" ды "прыклады" варожай дзейнасці. А рабілася гэта так. Пры допытах "...высвятлялі, дзе працаваў да арышту абвінавачаны, чым займаўся, ці былі нейкія факты пажараў, атручвання жывёлы па месцы яго жыхарства і гэтак далей. Высветліўшы гэтыя пытанні, штучна прыпісвалі ў паказаннях абвінавачаных учыненне тых ці іншых актаў шкодніцкай ці дыверсійнай дзейнасці..." (З пратакола допыту 27 сакавіка 1957 года былога супрацоўніка Новасібірскага ўпраўлення НКУС Філіповіча С. Ф.).

І яшчэ адно. У спраў на "ПАВ" была асаблівасць, што адрознівала іх ад іншых: амаль усе яны былі групавымі. Успомнім хаця б лёс жыхароў вёскі Беласток Крывашэінскага раёна Заходне-Сібірскага краю, дзе за адну ноч у снежні 1937 года былі арыштаваны ўсе мужчыны ва ўзросце ад 16 да 70 гадоў... Вярнуліся ж з іх усяго некалькі чалавек.

І можа не варта было б гаварыць аб гэтых міфічных цэнтрах і камітэтах неіснаваўшай "Польскай арганізацыі вайсковай", калі б за імі не стаялі рэальныя чалавечыя лёсы. Лёсы людзей з рознымі перакананнямі, поглядамі, пражытымі жыццямі, але аднолькавым іх завяршэннем: падваламі НКУС і куляй у патыліцу.

Па разліках чэкістаў, усёй контррэвалюцыйнай работай у Сібіры павінен быў кіраваць так званы "Сібірскі польскі камітэт" арганізацыі "ПАВ", што складваўся з людзей аўтарытэтных і добра вядомых сярод сібірскіх палякаў і беларусаў. І такія былі знойдзены. У яго былі "прызначаны" вядомы ў Нарымскім краі паляк-камуніст з дарэвалюцыйным стажам Філіповіч-Кеншчынскі і былы кадравы афіцэр калчакаўскай і польскай армій Сасенка, кіраўнік польскага таварыства ў Новасібірску, палітэмігрант Плябанек і ксяндзы Томскага і Іркуцкага касцёлаў Гронскі і Жукоўскі, былы камандзір падраздзялення войск ЧК на чыгунцы Лукашук і загадчык аддзела нацыянальных меншасцей Сібкрайвыканкома Зжміеўскі.

Да пачатку першай сусветнай вайны Аляксандру Сасенку споўнілася васемнаццаць гадоў, і ён не ўяўляў сябе без поля бою, марыў памерці смерцю храбрых за айчыну. Атрымаўшы благаславенне бацькоў, паступіў вальнапісаным у дзевяноста дзевяты Іванагародскі пяхотны полк і быў накіраваны на фронт ва Усходнюю Прусію. Быў паранены. Шпіталь і зноў дарога на фронт. Потым рэвалюцыя, вогненныя дарогі грамадзянскай вайны. У пачатку 20-х гадоў Аляксандр Сасенка пачаў служыць у часцях польскай арміі, размешчаных у Баранавічах і Брэсце, але раненні і кантузія пастаянна аб сабе нагадвалі. Давялося ў дваццаць трэцім годзе з арміі дэмабілізавацца. Жонка Лідзія, расіянка па паходжанні, сумавала па родных, што засталіся ў Савецкай Расіі. Пасля доўгіх ваганняў вырашылі вярнуцца ў Расію да сваякоў жонкі.

Пры пераходзе мяжы А. Сасенка быў арыштаваны і за нелегальны пераход мяжы камітэтам АДПУ асуджаны да трох гадоў канцлагераў. Пасля адбыцця гэтых трох гадоў у Салаўках у дваццаць сёмым годзе яго адправілі ў ссылку ў Нарымскую акругу Заходне-Сібірскага краю. Жыў ён у пасёлку Каргасок, у леспрамгасе ў тайзе, а з 1932 года — у горадзе Калпашаве. Працаваў механікам-матарыстам на электрастанцыі гарадскога педвучылішча.

Арыштавалі яго 11 жніўня 1937 года. Пасля папярэдніх допытаў у Калпашаве яго перапраўлі ў Новасібірск. Грунтоўна "апрацаваны" спецыялістамі сваёй справы А. Сасенка на допыце ў начальніка УНКУС па Захсібкраю Горбача прызнаўся, што ў 1924 годзе быў нелегальна перакінуты ў СССР са спецыяльнымі заданнямі польскіх разведорганаў. Канкрэтна гэта нібыта выяўлялася ў тым, што Сасенка павінен быў аб'яднаць усе разрозненыя групы "ПАВ", якія існавалі ў Сібіры, у адну магутную цэнтралізаваную арганізацыю, што яму і ўдалося. Даў паказанні аб тым, што пад яго кіраўніцтвам былі аб'яднаны групы "ПАВ", якія існавалі практычна ва ўсіх сібірскіх гарадах, пералічыў прозвішчы кіраўнікоў гэтых груп, назваў прозвішчы людзей з ліку былых ваенных рускай арміі, якіх нібыта асабіста завербаваў у арганізацыю на пасады камандзіраў штурмавых паўстанцкіх атрадаў.

У чым толькі не "прызнаўся" Сасенка сваім следчым на допытах, пратаколы якіх налічвалі не менш дваццаці старонак друкаванага тэксту. Вось толькі подпісы падследчага адсутнічаюць, а без іх, як вядома, пратакол не лічыцца дакументам. І ўсё ж, нягледзячы на такі "промах следства", копіі пратаколаў Сасенкі Аляксандра былі далучаны ў якасці доказаў да спраў многіх рэпрэсіраваных сібірскіх палякаў і беларусаў, у тым ліку і жыхароў вёскі Беласток, хаця ў іх няма нават упамінання аб вёсцы ці кімсьці з яго жыхароў.

Пастановай Асобай нарады НКУС СССР ад 20 кастрычніка 1937 года Аляксандр Сасенка быў прыгавораны да расстрэлу, і 5 лістапада яго не стала.

Калі чытаеш такое, адчуваеш жах, здзіўленне, неўразуменне, як усё гэта ўвогуле магло адбывацца. І ўсё-такі ведаць праўду аб гэтым трэба. Такія ўрокі гісторыі паўтарацца не павінны.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**



**Свята-Нікольская царква, якая была ўзведзена ў Петрыкаве ў 1830 годзе і захавалася да гэтага часу, з'яўляецца адзіным у сваім родзе архітэктурным помнікам на Палессі (пабудаваныя тады ж у Тураве і Давыд-Гарадку цэрквы былі разбураны). Тут адзін з лепшых на Гомельшчыне царкоўны хор, дзейнічае нядзельная школа, сабрана многа старадаўніх ікон, што засталіся ў адзіным экземпляры на Беларусі.**

**НА ЗДЫМКУ: гэтаму алтару больш за сто гадоў.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# БЕЛАРУСЫ УКРАІНЫ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА

У сталіцы Украіны горадзе Кіеве ініцыятыўная група з шасці чалавек, а менавіта: А. Варанчука (старшыня групы), С. Жолудзь, А. Чваркова, І. Каспяровіча, В. Маслава і А. Болбаса распачала працу над аб'яднаннем разрозненых пакуль што беларускіх суполак Украіны.

Кіраваць і каардынаваць дзейнасць аб'яднання суполак будзе Рада. Ініцыятыўная група прапанавала наступны яе склад:

1. АРЖУХОЎСКАЯ Ірына Аляксандраўна — намеснік старшыні аб'яднання "Беларусь" (г. Кіеў);
2. ВАЛЧОК Іван Пятровіч — старшыня нацыянальна-культурнага аб'яднання імя Максіма Багдановіча (г. Запарожжа);
3. ГАЙДУК Таіса Васільеўна — старшыня беларускага аб'яднання "Беларуская старонка" (г. Нікалаеў);
4. ДАЎГАЛЁЎ Уладзімір Сцяпанавіч — старшыня нацыянальна-культурнага аб'яднання беларусаў Крыма (г. Ялта);
5. ЗЕЛЯНКОЎСКІ Сяргей Пятровіч — старшыня клуба "Феміда" (г. Кіеў);
6. КАПЧЫК Пятрусь Міхайлавіч — кіраўнік гурта беларускай культуры "Зорка Венера" (г. Ізяслаў Хмяльніцкай вобласці);
7. КАРНЯЛЮК Іна Уладзіміраўна — кіраўнік гурта беларусаў г. Ковеля (Валынская вобласць);
8. МЕШЧАРАКОЎ Валерый Хведаравіч — старшыня аб'яднання беларусаў "Сябры" (г. Харкаў);
9. НЕСЦЯРУК Андрэй Герасімавіч — старшыня нацыянальна-культурнага таварыства "Беларус Данеччыны" (г. Данецк);
10. ПІЛІПЕНКА Міхась Карнеевіч — старшыня аб'яднання "Беларусь" (г. Кіеў);
11. ПРУСАЎ Лявон Трахімавіч — старшыня беларускай грамады "Беларускі дом" (г. Херсон);
12. САЛУК Сяргей Аркадзевіч — старшыня таварыства "Белая Русь" (г. Івана-Франкоўск);
13. САМУЙЛЕНКА Васіль Іванавіч — старшыня нацыянальна-культурнага таварыства "Белая Русь" (г. Харкаў);
14. ШАРКАДЗІЙ Ганна Яўстафіеўна — старшыня беларускай грамады г. Сцебніка (Львоўская вобласць);
15. ЦІМОШЧАНКА Барыс Мікалаевіч — старшыня аб'яднання беларусаў імя Францішка Скарыны (г. Львоў);
16. ЦІУНЧЫК Алесь Мікалаевіч — старшыня аб'яднання беларусаў імя Якуба Коласа (г. Ковель Валынскай вобласці).

Безумоўна, што склад Рады будзе павялічаны, таму што ў бліжэйшы час будуць створаны беларускія нацыянальна-культурныя таварыствы ў гарадах Жытоміры, Белай Царкве (Кіеўская вобласць), Херсоне, Чарнаўцах, Днепрапятроўску, Адэсе і іншых гарадах Украіны.

Украіна стала другой радзімай амаль для 400 000 этнічных беларусаў. Аб'яднаць іх, каб захаваць сваю самабытнасць, мову, культуру, і ставіць на мэце ініцыятыўная група па стварэнню Рады беларускіх культурных таварыстваў.

Лічу, што гэта вельмі патрэбная справа, таму што, аб'яднаўшыся, мы зможам не толькі абменьвацца вопытам, але і дапамагаць адзін аднаму ў рабоце суполак і аб'яднанняў. Пакуль што кожная беларуская суполка на Украіне "варыцца ва ўласным саку", і можна толькі пазайздросціць беларусам Польшчы, Літвы, Эстоніі, дзе ўжо даўно беларусы згуртаваліся ў аб'яднаннях, якія даюць плён. Літоўскія беларусы маюць беларускую сярэднюю школу ў Вільнюсе, тут у мясцовым педагагічным універсітэце ёсць аддзяленне беларускай мовы і літаратуры на філалагічным факультэце, выдаецца газета па-беларуску, беларуская мова гучыць на хвалях Літоўскага радыё і тэлебачання. А якое цікавае культурнае жыццё беларусаў у Польшчы! Апошнія публікацыі з Эстоніі таксама гавораць пра ажыўленне дзейнасці беларускіх суполак у Йыхві, Нарве, Таліне — гарадах, дзе пражывае амаль 20 тысяч нашых суайчыннікаў.

Канешне, не варта зайздросціць дасягненням іншых, а варта паставіць пытанне рубам: а што, мы горшыя?! Няўжо мы не беларусы?!

І не варта папракаць рускамоўных беларусаў у няведанні роднай мовы, бо карысці ад гэтых папрокаў аніякай, а распальванне варожасці не будзе на карысць агульнай справе. Калі рускамоўныя беларусы адчуюць прыгажосць беларускай народнай песні, цудоўнага вершаванага радка Максіма Багдановіча і Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча і Пімена Панчанкі, Алеся Разанава і Сяргея Грахоўскага, іншых майстроў пяра, яны самі пацягнуцца да роднай мовы. І менавіта беларускамоўныя суполкі Палтавы, Заходняй Украіны пакажуць прыклад любові да роднай мовы, літаратуры, фальклору, гісторыі, беручы нешта карыснае і ў расійскамоўных суполак беларусаў усходняй і паўднёвай Украіны. Будзе адбывацца ўзаемны ўплыў, што ў рэшце рэшт будзе працаваць толькі на кансалідацыю ўсяе беларускай дыяспары Украіны.

Вельмі прыемна, што работа па аб'яднанню беларускіх суполак на Украіне пачалася ў спрыяльны час: на Бацькаўшчыне створаны Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, які ўзначальвае ўкраінец Аляксандр Білык, а яго намеснікам па справах нацыянальных меншасцей Беларусі і беларускай дыяспары стаў спадар Іван Яновіч, якога многія з нас ведаюць яшчэ па рабоце ў Міністэрстве культуры Беларусі. Тут жа працуе і Ніна Петухова, якую мы ўсе ведаем па ЗБС "Бацькаўшчына".

Дзякуючы намаганням створанага камітэта, зрушылася з месца выкананне праграмы "Беларусы ў свеце", прынятай яшчэ ў 1993 годзе.

Усё гэта ўсяляе надзею, што праца ініцыятыўнай групы ў Кіеве прынясе свой плён і мы аб'яднаемся!

Ініцыятыўная група прапрацоўвае магчымасць выдання газеты "Беларус Украіны", перад якой ставіцца канкрэтная мэта — аказваць дапамогу ў рабоце таварыстваў, інфармаванні грамадзян беларускай нацыянальнасці аб навінах у Рэспубліцы Беларусь і рабоце культурных суполак беларусаў на Украіне.

Хочацца спадзявацца, што побач з польскамоўнай "Дзённік Кіеўскі", армянскамоўнай "Арагац", газетамі на крымска-татарскай, балгарскай, венгерскай, румынскай мовах, шматлікімі газетамі на рускай мове з'явіцца на Украіне і беларускамоўная газета, і яе не насцігне лёс "Беларуса Галічыны" — газеты са Львова, якая "сканала" пасля выхаду трох-чатырох нумароў, якая, дарэчы, была рэгіянальнай (Галічына) газетай. "Беларус Украіны" будзе газетай беларусаў усёй украінскай дзяржавы.

Заканчваючы свой допіс у "Голас Радзімы", хачу заклікаць усіх яе чытачоў на Украіне падтрымаць намаганні ініцыятыўнай групы пад старшынствам А. Варанчука ў аб'яднанні беларускіх суполак.

**Пятрусь КАПЧЫК.**

Украіна, г. Ізяслаў.



**Дваццаць гадоў споўнілася народнай студыі выяўленчага мастацтва Івянецкай сярэдняй школы. Арганізаваў яе і многія гады ўзначальваў Алег Раманоўскі, чалавек шматграннага даравання, які змог прывіць студыйцам любоў да жывапісу, графікі, разьбы па дрэву, керамікі.**

**Работы яго выхаванцаў экспанаваліся на выставах у многіх краінах свету. Для часткі навучэнцаў студыя стала першай прыступкай у набыцці прафесіі. Кіруе студыяй выхаванец Алега Фядосавіча Віктар Загавалка, які скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава.**

**НА ЗДЫМКУ: Алег РАМАНОЎСКІ (справа) і Віктар ЗАГАВАЛКА ў студыі выяўленчага мастацтва Івянецкай сярэдняй школы.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

# ПІЛІГРЫМКІ НАВУМА ГАЛЬПЯРОВІЧА



Толькі летась з Навумам Гальпяровічам я сустракаўся ў самых аддаленых ад Мінска мясцінах і пры самых нечаканых нагодах. То гэта было на возеры Нешчарда на ўшанаванні памяці Яна Баршчэўскага, то ў Каханавічах, калі верхнядзвінскія энтузіясты адзначалі 160-годдзе свайго земляка, паэта і фалькларыста Ігната Храпавіцкага... Паэт, радыёжурналіст, старшыня Полацка-Глыбоцкай філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч са сваёй кватэры ў Наваполацку як той Усяслаў Чарадзей мог раніцою патрэбнага дня быць у Баравусе, дзе адкрывалася мемарыяльная дошка ў гонар Янкі Купалы (у 1916 г. Іван Луцэвіч там праходзіў вайсковую службу), днём быць у старажытнай Дрысе (у 1918 годзе Наталля Арсеннева зімавала ў Жоўніне), па абедзе — у цудоўным дэндрарыі начальніка лясгаса Паўла Івашчанкі, а бліжэй да вечара — на летапісным "шляху з варагаў у грэкі" я яго знаёміў з прыдзвінскай Хаткай бабкі Параскі, — маім творчым прытулкам пад Бігосавам...

Усюдыіснасць творцы Навума Гальпяровіча — норма для яго натхнёнага жыцця. Напісанае — застаецца на паперы, а здзейсненая чыннасць — у культурнай прасторы Бацькаўшчыны. На родным Падзвінні, на Полаччыне, у самім Наваполацку Навум Гальпяровіч, як нашчадак Скарыны, здзейсніў сапраўды нямала. Прыгадаю хаця б выпускі літаратурна-мастацкага альманаха "Край". Колькі высілкаў спатрэбілася галоўнаму рэдактару Навуму Гальпяровічу, каб зборнік Полацка-Глыбоцкай філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў, галерэі "Рыса" займеў сваё непаўторнае аблічча!

З пераліку яго грамадскіх нагрузак, усіх дабрадзейскіх чыннасцяў я хацеў бы адзначыць і актыўны ўдзел Навума Гальпяровіча ў рабоце рады Міжнароднага фонду Янкі Купалы. Полацк — горад Купалы. Тут адна з вуліц, два завулкі і гарадская бібліятэка названы імем Купалы. Я ўжо згадваў пра ўстаноўленую нядаўна дошку на станцыі Баравуха-1. Не без дапамогі нашага радцы Навума Гальпяровіча ў Полацкім музеі кнігадрукавання праз 70 гадоў была ўзноўлена Купалаўская вечарына, якую 11 траўня 1926 года ў гонар Песняра тут ладзіла полацкая філія "Маладняка".

14 студзеня Навуму Гальпяровічу споўнілася 50 гадоў. Добрая нагода выказаць чалавеку-творцу словы ўдзячнасці. Свой юбілей паэт, рэдактар-выдавец, журналіст сустракае ў Мінску: з вечавага горада-стальца Навум Якаўлевіч пераехаў на работу ў памежную крэпасць Полацкай зямлі — Мінск: лірык па сваёй творчай натуры стаў намеснікам рэдактара часопіса "Вожык", супрацоўнічае з тэлебачаннем... Але мае нядаўнія пілігрымкі з Навумам Гальпяровічам захаваліся ў памяці. І як сведчанне — вось гэты верш-прысвячэнне разам з найлепшымі зычэннямі юбіляру:

## ПОЛАЦКАЕ НАЧАВАННЕ

**Расонскія вітанні**
**у шляхціца Завальні**
**здарожылі мой дзень.**
**Пасля ўрачыстай працы**
**да Полацка дабрацца б!**
**...Прытомлены, як сцень,**
**гляджу лістком апалым:**
**на вуліцы Купалы**
**стаіўся вінзавод...**
**Сафійка на рамонце...**
**Пралазіны у плоце...**
**А год ідзе на звод.**
**Прытулак звечарэлы.**
**Аўтобусік скарэлы**
**у Віцебску засне.**
**Я ў полацкім гатэлі —**
**нарэшце! У фатэлі**
**сяджу, бы ў баразне.**
**Што за вакном — не бачна.**
**З вячэраю нясмашнай**
**не думаць пра Афон...**
**Ды ёсць тут мой сааўтар:**
**сам Гальпяровіч заўтра**
**уключыць мікрафон!**
**Пытаннямі харчуе**
**ён полацкі амбон:**
**— З кім Ісціна начуе!**
**— Хто Ефрасінню чуе!**
**— Дзе вечавы наш звон!**
**Вунь у Навума сведкі:**
**Асветнік без падсветкі,**
**вакзал з Правадыром...**
**Праз радыё прарочыць,**
**што ёсць і ў ночы вочы**
**з агнём (не толькі днём).**
**Як пілігрым ахвочы**
**праз вечны горад крочыць...**
**А з ім і мне не збочыць**
**з Каўчэга — ў родны дом.**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

**НА ЗДЫМКУ: Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ на станцыі Баравуха-1. 17 траўня 1996 года.**

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# ПАЧАТАК ШЛЯХУ

Не самы выгадны ход — пачынаць рэцэнзію з пераказу, няхай сабе і лаканічнага, біяграфіі аўтара кнігі. Але не магу ўтрымацца ад такой ужо сапраўды ў даным выпадку спакусы. Аўтар кнігі паэзіі "Паміж небам і багнаю", выдадзенай летась у "Бібліятэчцы часопіса "Маладосць", — дваццацігадовы Алесь Дуброўскі. Нарадзіўся 18 лістапада 1976 года ў Навагрудку. З 1981-га — у Мінску. Сярэднюю школу скончыў з залатым медалём. Вершы, прозу, крытыку, публіцыстыку друкаваў у часопісах "Маладосць", "Нёман", "Бярозка", "Першацвет", у рэспубліканскіх газетах. Удзельнічаў у семінары творчай моладзі "Ісліач-93", вучыўся ў літаратурнай школе пры музеі М. Багдановіча. З 1993-га па 1995 год працаваў з некаторымі перапынкамі ў рэдакцыі часопіса "Першацвет" (быў старшынёй літаб'яднання; апошняя пасада — рэдактар аддзела прозы). Атрымаў другую прэмію за паэтычныя публікацыі ў "Першацвеце" за 1994 год. Зараз — студэнт IV курса беларускага аддзялення філалагічнага факультэта БДУ. У біяграфіі жыццёвай заўсёды закладзены творчы патэнцыял, энергетычны рухавік натхнення, паэзіі. А Алесь Дуброўскі якраз здзіўляе, радуе сапраўдным творчым патэнцыялам, пераконвае сваімі вершамі, што працуе дбайна, настойліва, рупліва. Камусьці такая вось упэўненасць падасца залішняй, не зусім да месца. Але ж мы гаворым пра талент, які імкліва расце. А ён, талент, заўсёды патрабуе выключнай, шматграннай працы.

Першая кніга маладога, зусім юнага творцы адкрываецца вершам, напісаным яшчэ ў 1992 годзе.

**Хтосьці мне скажа, мажліва,**
**"Фарбаў у песні няма,**
**Колер заўсёды маўклівы,**
**Літары — дзеля пісьма".**

**Вось як! Тады зразумела:**
**Колер не можа гучаць —**
**Фрэскі Сіксцінскай капэлы,**
**нібы каменне, маўчаць!"**

**Значыцца, бескаляровы**
**кветкі музычных дароў,**
**верш — нерухомыя словы...**
**Я ж думаў — музыка слоў.**

На самым пачатку творчых пошукаў малады паэт задае сам сабе адно з найвастрэйшых пытанняў: што ж ёсць паэзія? І няхай сабе да адказу Алесь Дуброўскі ідзе ў сумненнях, няхай сабе прыземленасць, будзённасць наступаюць, даюць месца журбоце, галоўнае ў іншым — у трывожным, шчымлівым узняцці, раскрыцці тэмы. Да веры можна прыйсці ад зваротнага. Гісторыя, гісторыя літаратуры, у прыватнасці, гэтаму вучыць, у гэтым запэўнівае.

Кніга "Паміж небам і багнаю" выразна падзелена на некалькі раздзелаў. Яны этапы творчага росту, паэтычнага руху Алеся Дуброўскага. "Горад новых імяў" прадстаўляе творы 1992—1993 гадоў. "Апошні парадокс" — 1993—1994 гады. "Вясна" — 1994 год. "Terra et Domino" (што азначае ў перакладзе з латыні — не гораду і свету, але "зямлі і Госпаду") — 1994—1995. Ад раздзела да раздзела, ад верша да верша відавочны рост, заўважны рух, сапраўды паэтычнае сталенне маладога аўтара. І справа зусім не ў тым, што Алесь Дуброўскі паказвае сябе літаратарам, здольным да засваення паэтычных, самых няпростых тэхналогій. Паэт паказвае, што, ідучы па шляху ўласнага адкрыцця вядомых ужо астатнім паэтычных здабыткаў, ён не запыняецца ў межах ці то літаратурнага версіфікатарства, ці то літаратурнага вучнёўства. Чужыя радкі, выбраныя эпіграфам з паэзіі вялікіх творцаў, нібыта высвечваюць яго, Алеся Дуброўскага, уласнае азарэнне. Услед за Іосіфам Бродскім альбо Пастэрнакам малады паэт праходзіць свой шлях, нікім ані не падказаны:

**Стаяць і слухаць. Не памерці**
**(нашто!), а проста адпачыць.**
**На стужцы запіс сцерці.**
**Сцерці!**
**Стаяць і слухаць. І лічыць**
**секунды, пульс, стагоддзі,**
**эры.**
**Пачуць якісьці дзіўны спеў**
**і — увайсці. Падперці дзверы,**
**Стаяць і слухаць...**

Што адкрываю я ў гэтых радках? Якую сілу знаходжу, каторая прымушае затрымацца, запаволіць жыццёвы бег? Мне бачыцца, што паэт з разраду шукальнікаў. Вершы Алеся Дуброўскага цяжкія для дэкламацыі (найперш па прычыне адсутнасці ў іх дэкларацый). Але творы яго — запамінальныя, цёплыя, ідуць ад унутранага багацця, ад шчодрасці аўтара, ад яго неспатольнай любові да жыцця. Цікава і тое, што нават складанай форматворчасці перадаюцца згаданыя вышэй рысы, адметнасці. Як прыклад — сустрэча з "Зімовымі хоку". Жанр хоку, як вядома, — рэч чужая. Калі верыць літаратуразнаўчым энцыклапедыям, то хоку, альбо хайку, — жанр японскай паэзіі, 17-складовы трохверш (5+7+5), часта з цэзурай пасля 1-га верша. Узнікла хоку ў XV стагоддзі ў якасці зачынатрохверша жартаўлівага рэнгу. У XVII стагоддзі Мацуа Басі паклаў пачатак сур'ёзным хоку і распрацаваў фармальныя і эстэтычныя прынцыпы жанру. Новы штуршок дзіўны японскі верш атрымаў у XIX стагоддзі, калі хоку, дзякуючы ўплыву жывапісу, сталася "замалёўкай з натуры". У канцы васьмідзесятых на Беларусі хоку як жанр загучала сярод "тутэйшых". Але ў тых хоку, як мне падаецца, меней за ўсё было паэзіі. Адчувалася ненатуральнасць, штучнасць. Іншая справа — хоку Алеся Дуброўскага. У іх — і цеплыня, і беларускасць. Таму да "Зімовых хоку" маладога паэта ставішся і з павагай, і з даверам.

Як ні дзіўна, у эстэтычна вытанчанай, выключна літаратурна-паэтычнай кнізе "Паміж небам і багнай" адчуваецца трывалы, жыццёвы стрыжань. Чаму выяўляецца такі вось парадокс, такое вось як быццам супярэчанне? Але гэта, відавочна, толькі вонкавае супярэчанне. Калі сапраўдная, а не вымучаная, сапраўдная эстэтычна выверная паэзія, то яна і па-мастацку жыццёвая, трывалая. Калі хочаце — па-народнаму прыгожая. Мо тут, у гэтым сумяшчэнні (а зусім не пярэчанні) вінаваты і асаблівы навагрудскі генетычны код. Аўтар жа кнігі нарадзіўся ў адной з найцікавейшых прастор беларускіх — у Навагрудку. Дык, мусіць, і кіруе яго вершатворчасцю навагрудская мастацкая школа. Трывалая эстэтычная школа прыгожага пісьменства. Так на крайні выпадак мне падаецца.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**







**У канцы мінулага года ў Магілёве адбылося ўручэнне стыпендый Фонду Уладзіміра Співакова, скрыпача, мастацкага кіраўніка аркестра "Віртуозы Масквы", семярым таленавітым музыкантам Беларусі. Сярод іх — піяністка Беларускай акадэміі музыкі Ганна Шыбаева, вучаніцы Магілёўскай дзіцячай музычнай школы № 5 сёстры Даша і Саша Маісеевы. Стыпендыі ўручыў прадстаўнік фонду ў Беларусі — дырэктар Магілёўскай філармоніі кампазітар Уладзімір БРАІЛОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: стыпендыятаў прадстаўляе кампазітар Уладзімір БРАІЛОЎСКІ; выступаюць сёстры Саша і Даша МАІСЕЕВЫ; за раялем — Ганна ШЫБАЕВА.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА.**

## НА РАДАСЦЬ ДЗЕЦЯМ



У Беларускім дзяржаўным цырку прайшло спецыяльнае прадстаўленне для дзяцей-сірот — выхаванцаў дзіцячых дамоў і дамоў-інтэрнатаў Мінскай вобласці. Гэты навагодні падарунак для дзятвы паднёс камітэт па справах моладзі Мінскага аблвыканкома, які аплаціў прадстаўленне.

Вясёлы, захапляючы, казачны спектакль паглядзелі амаль дзве тысячы дзяцей з 22 школ-інтэрнатаў, двух дашкольных дзіцячых дамоў з Жодзіна і Ждановіч і дзецііінваліды з Івянецкага інтэрната.

Шчаслівыя дзіцячыя твары былі ўзнагародай дарослым.

НА ЗДЫМКАХ: у час прадстаўлення.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ.





Міжнародная Акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцей

International Academy of National Minorities' Research

РЭСПУБЛІКАНСКІ ЦЭНТР НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУР
Брэсцкая аб'яднаная рэгіянальная арганізацыя ЗБС "Бацькаўшчына"

25—27 верасня 1998 г. адбудзецца 2-я Міжнародная навуковая канферэнцыя па культуры беларускага памежжа:

### «КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКА-ЎКРАІНСКАГА СУМЕЖЖА»

На канферэнцыю выносіцца абмеркаванне наступных пытанняў:

1. Гісторыя ўзаемаўплыву культур народаў беларуска-польска-ўкраінскага сумежжа: беларусаў, палякаў, украінцаў, яўрэяў, рускіх, татар, цыганоў і інш.
2. Міжкультурныя кантакты народаў беларуска-польска-ўкраінскага сумежжа ў цяперашні час.
3. Этналінгвістычныя асаблівасці рэгіёна.
4. Пытанні рэгіянальнай адукацыі на беларуска-польска-ўкраінскім памежжы.
5. Еўрарэгіён "Буг" як фактар умацавання эканамічнай і палітычнай культуры народаў беларуска-польска-ўкраінскага сумежжа.

Тэзісы дакладаў ці невялікія артыкулы аб'ёмам да 5 старонак машынапіснага тэксту, надрукаваныя праз два інтэрвалы, дасылайце, калі ласка, ў 2-х экз. да 20 лютага 1998 г. па адрасу:

**Беларусь. 224030, г. Брэст-30, абаненцкая скрынка № 14. Аргкамітэт канферэнцыі, праф. Яцкевічу С. А.**

Паколькі атрыманыя матэрыялы будуць перадрукоўвацца, прытрымлівацца пэўных норм іх афармлення неабавязкова, але неабходнай умовай з'яўляецца патрабаванне арфаграфічнай і стылістычнай дакладнасці тэкстаў, а таксама іх адпаведнасці тэматыцы канферэнцыі. Аргкамітэт будзе ўдзячны тым аўтарам, якія змогуць прадставіць свой матэрыял у надрукаванай форме разам з дыскетай (тэкставы рэдактар Word 2, 6; вяртанне дыскеты гарантуецца). Да матэрыялаў трэба прыкласці аўтарскую даведку з указаннем імя і прозвішча, вучонай ступені і звання, акадэмічнага звання (калі ёсць), месца працы і пасады, адраса і тэлефона.

Рэдкалегія пакідае за сабою права адбору матэрыялаў і (пры неабходнасці) іх рэдагавання. Зборнік матэрыялаў удзельнікаў канферэнцыі плануецца выдаць да пачатку яе правядзення.

**Тэлефон для даведак у г. Брэсце: 26-25-14.**

**АРГКАМІТЭТ.**

## НАВІНЫ БЕЛАРУСКАЙ ПОШТЫ

# З ГІСТОРЫІ МІНСКА

Новая серыя з чатырох марак прысвечана беларускім трактарам. На паштовых мініяцюрах у выкананні мастака Г. Долбіка паказаны некаторыя мадэлі трактароў, што характарызуюць асноўныя перыяды беларускага трактарабудавання. Гэта першы колавы трактар мінскага завода "Беларусь-53", трактары "Беларусь-952", "Беларусь-1221", "Беларусь-680". Гэты выпуск цікавы яшчэ і тым, што серыя выйшла так званым малым лістом, які складаецца з 8 марак, у цэнтры якога паказаны будынак заводакіравання. На палях малога ліста стылізаваны след пратэктара, што пераходзіць у каласы. Выдадзены таксама паштовыя карткі з адлюстраваннямі гэтых трактароў. Маркі надрукаваны выдавецтвам "Беларускі Дом друку".

Трэба адзначыць, што першы паштовы выпуск, прысвечаны беларускаму трактару, быў ажыццёўлены ў 1966 годзе. У 1971-м да 25-годдзя завода быў выдадзены канверт з адлюстраваннем трактара МТЗ-52. Адзначана поштай і 25-годдзе выпуску першага трактара "Беларусь".

У свой час беларускія трактары пастаўляліся больш чым у 70 краін свету. На многіх міжнародных выставах і кірмашах — Брусель, Ізмір, Лейпцыг, Плоўдзіў — беларускія трактары былі адзначаны залатымі медалямі. На паштовых марках Манголіі, вострава Мадагаскар паказаны беларускія трактары.




Сумесна з прадстаўніцтвам ААН у рэспубліцы дзяржаўнае аб'яднанне "Белпошта" выпусціла паштовую марку, прысвечаную барацьбе са СНІДам. Мастак В. Сытчанка паказаў на мініяцюры людзей рознага ўзросту, над якімі навіс стылізаваны вірус чумы XX стагоддзя, што пагражае свету. Такія маркі створаны паштовымі адміністрацыямі многіх краін свету. Цяпер сярод іх будзе і беларуская. Марка заклікае да аб'яднання намаганняў людзей у барацьбе з небяспекай.

У 1897 годзе на Багадзельнай вуліцы ў Мінску (цяпер Камсамольская) стараннямі вядомага беларускага ўрача і гуманіста Івана Здановіча адкрылася вучылішча для сляпых дзяцей. Яно ўпісала нямала слаўных старонак у гісторыю народнай адукацыі і нацыянальнай культуры. Адзначаючы 100-гадовы юбілей школы сляпых, беларуская пошта выпусціла спецыяльны канверт, на малюнку якога адлюстравана ў стылізаванай форме азбука Брайля, на яе фоне ідуць інваліды па зроку. На паштовым знаку




паказаны твар інваліда, на чорных акулярах якога праглядваецца азбука Брайля. Спецыяльны штэмпель для гашэння мае юбілейны тэкст "100 гадоў школе сляпых у Беларусі".

Рашэннем ААН у пачатку кастрычніка штогод адзначаецца Сусветны дзень дзіцяці. Гэтай даце беларуская пошта прысвяціла спецыяльны канверт "Першага дня", паштовую марку (мастак В. Сытчанка) і спецыяльны штэмпель гашэння. Гашэнне рабілася ў Гомелі. На канверце паказаны дзеці пад аховай клапатлівых чалавечых рук. На марцы адлюстравана тая ж тэма — стылізаваная кветка, пялёсткі якой у выглядзе чалавечых рук з пяшчотай падтрымліваюць дзіця.

Сусветны дзень пошты быў устаноўлены ў 1957 годзе на XIV кангрэсе Сусветнага паштовага саюза ў Атаве (Канада) і вырашана было адзначаць гэты дзень 9 кастрычніка. Менавіта ў гэты дзень у 1873 годзе ў Бёрне (Швейцарыя) быў падпісаны дагавор аб стварэнні Усеагульнага паштовага саюза (з 1878 года — Сусветны паштовы саюз). Беларусь падпісала Сусветную паштовую канвенцыю ў ліпені 1947 года.

З 1994 года пошта рэспублікі выдае да гэтага свята паштавікоў спецыяльныя канверты і штэмпелі. У мінулым годзе да Сусветнага дня пошты быў выдадзены канверт, а на паштамце 9 кастрычніка адбылося спецгашэнне.

**Леў КОЛАСАЎ.**




Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 20.
Падпісана да друку 12.1.1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.